


## АБ „НІВЕ“

Гаварыць аб „Ніве“ гэта значыць гаварыць аб чымсьці, што ёсць, калі не часткай майго цела, дык напэўна часткай маёй душы.

Не раз у часе рознага тыпу сустрэч з насельніцтвам чуў я розныя выказванні аб „Ніве“. Былі гэта ў большасці выказванні крытычныя. Зрэшты, гэта мяне не здзіўляе, бо вядома, што ў нас пагалоўна ўсе маюць крытычныя погляды на тэму ўсяго і ўсіх, зразумела, апрача саміх сябе.

Трэба сказаць сабе адкрыта і ясна: незалежна ад таго, якой газетай будзе „Ніва“, знойдуцца вялікія групы людзей, якія будуць да яе адносіцца крытычна. Чаму? Таму, што „Ніва“ адна, а яе чытачы належаць прынамсі да трох грамадскіх класаў, дзесяткаў прафесій, розных узростаў — ад сямі да ста гадоў. Наш тыднёвік накіраваны да сялян, рабочых, інтэлігентаў, рамеснікаў, вучняў, студэнтаў, прафесараў, дзяўчат, хлапцоў, мужчын і жанчын. І гэта яшчэ не ўсё. „Ніва“ ідзе не толькі ў рукі беларусаў з усходняй Беласточчыны, але і да тых беларусаў, якія жывуць у розных закутках Польшчы. І не толькі. Вядома, што „Ніву“ выпісваюць беларусы з Савецкага Саюза і прынамсі з дваццаці заходніх краін.

Ну, і цяпер скажыце, дарагія чытачы, ці можа быць такі геній-рэдактар, які мог бы стварыць газету, што ўсім гэтым катэгорыям чытачоў магла б у аднолькавай ступені спадабацца? Думаю, што такога генія не было і не будзе. Ацэньваючы „Ніву“, трэба глядзець на яе не з нейкай фантастычнай хмаркі наіўных пажаданняў, а з рэальнага грунту сапраўдных магчымасцей. Вось з гэтага грунту і стараюся глядзець на наш перыёдык. І якія ж пры гэтым агортваюць мяне думкі і пачуцці? Перш за ўсё пачуццё ўдзячнасці ўсім тым людзям, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у рэдагаванні нашага часопіса, а асабліва ў адносінах да галоўнага рэдактара „Нівы“ Г. Валкавыцкага, які нязменна на працягу трыццаць аднаго года з'яўляецца архітэктарам нашага тыднёвіка. Здаецца мне, што галоўная думка, якой кіраваўся Г. Валкавыцкі на працягу гэтага трыццаць аднаго года, ішла ў тым напрамку, каб „Ніва“ рэдагавалася максімальнай колькасцю не толькі прафесійных журналістаў, але і непрафесійных карэспандэнтаў, якія, як вядома, прымалі і прымаюць вельмі вялікі ўдзел у фармаванні ідэйнага і фармальнага аблічча „Нівы“.

Думаю, што галоўнае дасягненне выдаўцоў „Нівы“ — гэта тое, што з'яўляецца яна даволі верным люстрам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, водгуллем тых шчырых галасоў, смеху або плачу, якія разыходзіліся і разыходзяцца з беларускіх гушчаў.

Думаю, што калі б не было

(Працяг на стар. 5)

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

11 чэрвеня 1987 г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Асноўнай тэмай была ацэнка выканання прапаноў супольнага пасяджэння прэзідыумаў Ваяводскай рады ПРОН і Галоўнага праўлення БГКТ ад 26 чэрвеня 1986 г. У выніку супольнага пасяджэння былі накіраваны ў адрас адпаведных міністэрстваў прапановы ў галіне асветы і культуры. На нашыя прапановы дало адказ Міністэрства асветы і выхавання, Міністэрства навукі і вышэйшага школьніцтва і Радыёкамітэт, аб чым мы інфармавалі на старонках „Нівы“. Прэзідыум ГП выказаў падзяку старшыні Ваяводскай рады ПРОН праф. Пятру Бараню за аказаную ім падтрымку нашым прапановам, а таксама звярнуўся з просьбай накіраваць у Міністэрства культуры і мастацтва нашыя пастулаты ў справе выдавецкай дзейнасці, імпарту кніг з БССР, падрыхтоўкі інструктараў для беларускага аматарскага руху.

Прэзідыум ГП прыняў праграму святкавання 70-тай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З мэтай адзначэння гэтай знамянальнай гадавіны БГКТ будзе праводзіць беларускія народныя фэсты, дэкламатарскі конкурс, урачыстыя сходы, акадэміі і вечарыны.

Прэзідыум заслухаў таксама інфармацыю аб выкананні фінансавага плана ГП за пяць месяцаў бягучага года. (В.Л.)

## ХРОНІКА

### ЧЭРВЕНЬ 1987

1 — Прадстаўнікі БГКТ (Валянціна Ласкевіч, Вера Валкавыцкая і Віталій Луба) адбылі сустрэчу з членамі Прэзідыума Ваяводскага аддзела Таварыства тэатральнай культуры ў Беластоку. Былі абмеркаваны магчымасці супрацоўніцтва ТКТ з БГКТ у дасканаленні і папулярызацыі беларускага тэатральнага руху.

3 — Прэзідыум Праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ прыняў план культурных мерапрыемстваў. На чэрвень запланаваны танцавальны вечар у Дубінах і беларускі фэстын у Гайнаўцы.

— Аддзел БГКТ у Бельску-Падляшскім арганізаваў „Беларускі дзень“. У беларускай пачатковай школе і ў ліцэі з вучнямі сустрэліся журналісты „Нівы“. У Бельскім доме культуры выступілі школьныя лялечныя тэатры. У клубе БГКТ наладжана выстаўка абраднага печыва і экспанатаў у будучы Беларускі музей. Падвечар адбыўся канцэрт калектыву „Нёман“ з Гродна.

4 — Гістарычная секцыя ГП БГКТ арганізавала чарговую сустрэчу для ўсіх, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай. Навуковы супрацоўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку мгр Антон Мірановіч прачытаў лекцыю на тэму „Беларуская нацыянальная свядомасць на Беласточчыне“.

6 — Аўтар „Пожні“ Васіль Петручук (кандыдат у члены Саюза польскіх пісьменнікаў) сустрэўся з вучнямі пачатковай школы ў Трасцянцы.

11 — Праўленне літаб'яднання „Белавежа“ абмеркавала план адзначэння юбілею 30-годдзя (1988 г.) беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

12 — На сваім пасяджэнні Прэзідыум праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ ацаніў падрыхтоўку да беларускага народнага фэстына, які адбыўся 14 чэрвеня ў Гайнаўскім парку 30-годдзя ПНР.

20 — У пачатковых школах у Орлі, Малінніках і Пашкоўшчыне адбыліся сустрэчы з Сакратам Яновічам.

21 — У Гайнаўскім доме культуры прайшоў агульны сход членаў Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Камітэт зараз налічвае 140 членаў. За тры гады дзейнасці на рахунку пабудовы Камітэт сабраў 9 млн. зл. і 3500 долараў з ЗША, апрацаваў камплектную тэхнічную дакументацыю. У канцы мінулага года будаўнічае прадпрыемства пачало пабудову музея. У пастанове сходу пакладзены асаблівы націск на актывізацыю збору грашовых сродкаў і экспанатаў у музейны фонд, а таксама паскарэнне пабудовы.

22 — Беластоцкі ваявода Мар'ян Гала прыняў дэлегацыю ГП БГКТ. У склад яе ўваходзілі: Аляксандр Баршчэўскі, Янка Зенюк, Канстанцін Майсеня і Віталій Луба. Старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі паінфармаваў ваяводу аб напрамках дзейнасці Таварыства і яго праблемах. Многа ўвагі падчас сустрэчы адведзена пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, выдавецкай дзейнасці і аматарскаму руху.

25 — У рэдакцыі „Нівы“ адбыўся сход пярвічнай партыйнай арганізацыі ПАРП пры ГП БГКТ. Галоўнай тэмай сходу быў мэцэнат БГКТ і „Нівы“ над беларускім літаратурным рухам у Польшчы. Удзельнічалі ў ім літаратары-„белавежцы“ і прадстаўнікі ваяводскіх улад: Эдвард Беляк — намеснік кіраўніка Аддзела навукі, культуры і асветы ВК ПАРП і Валянціна Казімерчык — прадстаўнік Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку.

У сувязі з абмежаванымі выдавецкімі магчымасцямі БГКТ паўстае пагроза заняпаду творчасці беларускамоўных літаратараў. Сход абавязаў партарганізацыю і Прэзідыум ГП БГКТ прыняць адпаведныя меры дзеля паляпшэння сітуацыі, існуючай у выдавецкай галіне.

28 — Юбілей трыццацігоддзя адзначала Літоўскае грамадска-культурнае таварыства. У Пунску адбылося ўрачыстае пасяджэнне Галоўнага праўлення ЛГКТ. Ад імя БГКТ віншаванні і пажаданні перадаў сакратар Віталій Луба. Вечарам над возерам Галадусь у Бурбішках сустрэліся ўсе літоўскія самадзейныя калектывы.

(В.Л.)

Глыбокія спачуванні
**Тамары Баран**
з прычыны смерці
**бацькі**
выказваюць
сябры з Беластоцкага аддзела
БГКТ і „Нівы“




## ЗАБЫТАЯ ГІМНАЗІЯ

Забытая Беларуска-руская гімназія ў Беластоку, аб якой у красавіку гэтага года „Ніва“ надрукавала рэпартаж, заслугоўвае на шырэйшыя ўспаміны. Я быў адным з своечасова закончыўшых яе адзінаццаці выпускнікоў. Астатнія нашы чацвертакурснікі атрымлівалі „малую матуру“ крыху пазней у іншых гімназіях. Ніхто з нас, аднак, не ведае арганізатараў гімназіі, а нават першых дзён яе працы. Часта прыходзілі ў школу тагачасныя працаўнікі асветы Піліп Кізевіч і Рыгор Гаскевіч. Апошні быў у 1945 годзе забіты ў Беластоку, вучні нашай гімназіі ўзялі ўдзел у яго пахаванні. П. Кізевіч ужо не жыве.

Я з дваюрадным братам Аляксандрам Семенюком, зараз геолагам у БССР, даведаўся аб існаванні гімназіі ад Філіпа Грынявіцкага з Агароднікаў, які веласіпедам праз Трасцянку ехаў паступіць вучыцца. Мяне гэтая вестка вельмі ўсхвалявала. Маці не хацела, каб я ехаў вучыцца, з увагі на страту апошняга памагатага ў гаспадарцы, а бацька аднёсся да гэтага вельмі прыхільна. Памятаю, што ўспамянуў ідучую яшчэ страшэнную вайну і што „вучоным усюды лягчэй“. Праз некалькі гадзін мы былі ўжо ў Беластоку.

Горад сустрэў нас непрыхільна. Два кантролі дакументаў, усюды мноства савецкага войска, складаў зброі, выпаленыя дамы, знішчаныя вуліцы. Не было святла, водаправоднай вады, магазінаў.

Раніцай прыйшлі мы ў канцылярыю гімназіі, дзе сустрэла нас сімпатычная сакратарка Таня (пасля Лашэвіч) і тут жа настаўнікі зрабілі нам „экзамен“: ці вывучалі вы алгебру, механіку, рускую літаратуру? Паводле некалькіх адказаў прапанавалі другі або трэці клас гімназіі. У палове кастрычніка 1944 года былі яшчэ свабодныя месцы. Чацвертага класа яшчэ не было. Мы выбралі другі. Вучні прынялі нас ветліва, былі толькі здзіўлены, што паходзім мы з Бельшчыны. Яны прыехалі з раёна Гарадка, Міхалова, Заблудава, Харошчы і з Беластока. Прыезджыя гаварылі паміж сабой усюды па-беларуску, а беластачане — па-польску або па-руску. Лекцыі вяліся на той мове, якую найлепш ведаў сам настаўнік. Усе мы да гэтага хутка прывыклі і навучыліся нядрэнна імі валодаць. У пасляваенным Беластоку было гэта апошняе месца неантаганістычнага разнамоўя.

Малы, перапоўнены моладдзю будынак здаваўся нам найпрыгажэйшым у горадзе (а можа сярод тагачасных пажарышчаў ён сапраўды быў такім?). Не было падручнікаў і ніякіх іншых школьных дапаможнікаў. Пасцягвалі падручнікі савецкія, польскія, а нават царскія. Я перақазаў атлас анатоміі чалавека, які мне прывёз у 1940 годзе дзядзька-ленінградзец. Сшыткі рабілі самі з рознай паперы, пісаць трэба было многа.

Непаўторнай была, аднак, атмасфера навукі, узаемадапамогі, сужыцця як у школе, так і до-

(Працяг на стар. 4)

# НА „СОНЕЧНЫМ СТОКУ"

Яшчэ ў 1978 годзе тут касілі жыта і ніхто нават не падумаў, што на ўзгорку на захад ад горада Беластока, здалёк ад яго цэнтра, будзе пабудаваны вялікі, сучасны жыллёвы пасёлак. У верасні 1979 года арганізавалі **жыллёвую слулдзельню** і назвалі яе **„Сонечны сток“**. У студзені 1980 года перадалі ў карыстанне першы шматсямейны будынак. Такі быў пачатак.

У 1982 годзе на наймалодшым тады беластоцкім пасёлку пражывала ўжо чатыры тысячы чалавек, а на два гады пазней — адзінаццаць тысяч. Зараз жыве тут каля васемнаццаці тысяч. На пасёлку пабудавалі вуліцы: Стромую, Марчукоўскую, Упальную і Уладзіслава Гамулкі. Былі адкрыты крамы, пошта, школа, прадшколле, пункты паслуг. У 1990 годзе жыхары пасёлка будуць мець яшчэ адну выгаду — тэлефоны ў сваіх кватэрах.

Цяпер пасёлак „Сонечны сток“ — візітная картачка звыш чвэрцьмільённага горада над рачулкай Белай. Кватэры тут большыя, чым дзе-небудзь, цікавая архітэктура, дапасаваная да мясцовага рэльефу, шпаркі тэмп пабудовы пасялковага Дома культуры, кнігарні і іншых культурных аб’ектаў. Усюды поўна зелені: растуць дэкаратыўныя дрэўцы і прыгожыя кустарнікі.

На пасёлку актыўна працуюць розныя секцыі, між іншым, фотааматараў, жывапісцаў і спартыўныя, вакальна-музычны ансамбль ды аматарскі тэатральны калектыў. Кожны знаходзіць тут нешта цікавае, вартае ўвагі, для сябе.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**



**„Сонечны сток“ — адзін з маладых жыллёвых пасёлкаў у Беластоку“.**

**(Працяг са стар. 1)**

# Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

*ских почестей на кладбище западнее 700 метров деревни Подуховные Бельского района Белостокской области 31/VII 1944 года“.*

Гэтае рукапіснае паведамленне аб гібелі салдата праляжала ў сям’і сорак гадоў. Сватаўскія следапыты самі прызнаюцца мне ў пісьме, што назву мясцовасці, дзе пахаваны Іван Іваноў, яны маглі прачытаць не зусім правільна, бо назва зацерлася. Затое дата засталася выразнай.

Рашыў я тады прасачыць за календаром ваенных дзеянняў, для чаго найлепшай крыніцай з’яўляюцца паведамленні Савінформбюро. Вось у зводцы ад 30 ліпеня 1944 года яно апавяшчала:

*„На поўдні ад Беластока савецкія войскі занялі важны чыгуначны вузел, горад і вялікую чыгуначную станцыю Бельск-Падляшскі ды вызвалілі звыш 60 іншых мясцовасцей, між іншым: Рыбалы, Аўгустова, Райск, Плюцічы і чыгуначную станцыю Страбля“.*

На наступны дзень баі перакаціліся на захад і паўднёвы захад ад Бельска. Значыць, сапраўды, пераможны шлях на Берлін для Івана Грыгор’евіча Іванова абарваўся недзе ў Бельскім раёне. З гэтага просты вывад, што пахаваны ён не ў вёсцы Падухоўнае ці Падухоўка, бо гэтай вёскі ў нас няма, а ў нейкай іншай, з падобным гучаннем, або з падобнымі літарамі ў назве.

Два гады я патраціў, каб нешта знайсці і высніць. Следапыты са Сватава сістэматычна мяне падганялі, каб я ўрэшце-рэшт дапамог ім атрымаць пажаданую жменьку зямлі з магілы гэтага воіна.

Урэшце-рэшт давялося мне згадзіцца з меркаваннямі Міхаіла Садоўскага з вёскі Тыневічы Вялікія, які пасля першай маёй публікацыі („Ніва“ ад 21 красавіка 1985 года) з’явіўся ў нашай рэдакцыі і з поўным перакананнем заявіў, што Іван Іваноў быў пахаваны на могілках за вёскай Лапухоўка.

Я ведаю гэты куток нашай беларускамоўнай Беласточчыны. Тут знаходзяцца Тыневічы Вялікія і Малыя, Камень і Лапухоўка. А між імі, каля скрыжавання дарог, людзі размясцілі свае могілкі і драўляную царкву-капліцу. Пабудавалі яе ў 1948 годзе на месцы згарэўшай у чэрвені 1941 года.

— Мой пакойны татка, Іван Садоўскі, — гаварыў дзядзька Міхась, — быў старастам пры гэтай царкве. Дык і за парадкам на могілках сачыў, хаця ў вайну тут ад царквы застаўся адзін толькі фундамент. Таму і я часценька з бацькам бегаў па гэтых могілках. Добра ведаю тады, што тут летам 1944 года, тыдні два пасля Пятра і Паўла, пахавана было 8 савецкіх воінаў. Сямёра — зараз жа каля цяперашняга падмурка, на якім стаіць царква, а восьмага хавалі асобна, бліжэй могілкавай агароджы, якраз *„...с отданием воинских почестей...“*, як напісалі вы ў „Ніве“. Бо трэба вам ведаць, што гэта быў нейкі афіцэр. Здаецца, лейтэнант або і старшы лейтэнант. На яго магіле паставілі акуратны памятны стоўбік, закончаны чырвонай зоркай. На таблічцы, прыбітай да стоўбіка, было напісана: „Иванов Иван“, І яшчэ па бацьку, значыць, „вотчэства“, але як — ці Грыгор’евіч, ці Іванавіч, ці неяк па-іншаму — гэтага я вам не скажу, душою крывіць не буду, проста забыў.



**Капліца на могілках, дзе пахаваны васьмёра савецкіх воінаў, загінуўшых у баях за вызваленне Бельскай зямлі, між іншым, і Іван Грыгор'евіч Іваноў, магілу якога хоча ўстанавіць і наведаць сын Леанід.**

Так гаварыў гэты селянін у час нашай сустрэчы ў рэдакцыі. А розніцу ў назвах вёскі, той, якую падалі нам вучні са Сватава, і той, якая знаходзіцца пасуседску з могілкамі, ён таксама паясняў мне даволі лагічна і пераканаўча.

— Я мяркую, што гэтыя дзеці проста дрэнна прачыталі зацерты надпіс, — пераконваў мяне Міхаіл Садоўскі. — Вы ж па-руску лепш разбіраецеся за мяне. Дык напішыце па-руску: *„Подуховна* і *Лопуховка.* Паглядзіце, амаль усе літары тут падобныя. *„П“* лёгка пераблытаць з *„Л“*, а *„...ховна“* з *„....ховка“*. Усё, значыць, указвае на нашу Лапухоўку. І месцазнаходжанне могілак, указаных у „пахаронцы“, гэта пацвярджае. Сапраўды нашы могілкі *„западнее 700 метров деревни Лопуховка“*, калі глядзець па вайсковай карце. Пра Лапухоўку тут ідзе гаворка яшчэ і таму, што ў гэтай вёсцы ў час франтавых дзеянняў размяшчаўся палявы шпіталь. Не ўсім параненым удавалася вярнуць здароўе, некаторых адсюль вывозілі на самалётах аж у Брэст. А вось гэтых васьмярых...

Дык паехаў я ў Тыневічы Вялікія, каб яшчэ раз сустрэцца з Міхаілам Садоўскім. І каб даведацца, дзе ён жыве, спыніўся вось ля гэтай вясковай крамы. Сяляне, якія грэліся на лаўчацы, пераважна пастарэлыя пенсіянеры, ахвотна пачалі ўспамінаць мінулы час. Гаварылі, што ў іх наваколлі было ў вайну пабіта і пахавана многа савецкіх салдат. Адзін з іх, гэтых сялян, назваў нават дакладнае прозвішча: Помазаў Пётр Архіпавіч

— Вунь там, ля дарогі, дзе цяпер вырас ужо вялікі лес, знаходзілася яго магіла.

Іх астанкі вывезлі пасля вайны на брацкія могілкі савецкіх воінаў, якія наладзілі ў тадышніх павятовых цэнтрах.

Пабываў я і на могілках за Лапухоўкай. Найперш спадарожнічаў мне амаль дзевяностагадовы дзядуля Аксенцій Ракоўскі, які таксама з усяго сэрца хацеў дапамагчы мне і сям’і Івана Грыгор’евіча Іванова ў пошуках. А затым на гэтыя ж могілкі выбраўся са мною Міхаіл Садоўскі. Абодва яны паказалі мне месца пахавання памерлых байцоў.

— Астанкі гэтага Івана Іванова, — гаварыў дзядзька Міхаіл, — дык пасля вайны адсюль забралі і перавезлі на могілкі савецкіх салдат, што ў Бельску. А ўсе іншыя так і спачываюць у нашай зямлі, тут на могілках, вунь там, пад самай сцяною царквы, — паказаў селянін.

Калі адбудоўвалі царкву на могілках, дык гэтыя магілкі, разам сем, выпалі, на жаль, ля самых сцен храма, а нават часткова пад ім.

Падумаў я, што варта было б неяк аднавіць і замацаваць памяць аб загінуўшых. І з гэтай думкай паехаў да тутэйшага святара Уладзіміра Саўчука. Ён як гаспадар таго месца горача і сардэчна аднёсся да маёй прапановы.

— Разам з маімі прыхаджанамі, — заявіў айцец Уладзімір, — мы або замацуем на сцяне царквы памятную табліцу, або побач царквы ўстановім спецыяльны помнік з падзячным надпісам, што ў гэтым месцы было пахавана васьмёра байцоў, загінуўшых у баях за вызваленне нашай зямлі.

А Міхаіл Садоўскі паабяцаў, што ён ахвотна пашле сыну Івана Грыгор’евіча Іванова — Леаніду Іванавічу Іванову афіцыйнае запрашэнне на пабыўку ў Тыневічах і поўнасцю забяспечыць тут яго прабыванне, калі, вядома, Леанід Іванавіч толькі захоча яму напісаць, што ён жадае прыехаць. Міхаіл Садоўскі жыве заможна і не будзе ніякага ўшчэрбку для яго гаспадаркі, калі нават і месяц часу пагасцюе ў сябе цэлую сям’ю Івановых.

— Напішыце, што я ахвотна, з адкрытым сэрцам прыйму іх у сябе, — заявіў селянін. Пісаць яму трэба так: Польша, Белостокское воеводство, 12-208 Клейники, Тыневичи Великие 43, Садовскому Михаилу Ивановичу.

Вось так і завяршылася мая журналісцкая роля ў гэтай справе. Застаецца чакаць мне прыезду сына на магілу бацькі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 2)




ма. Часта пасля заняткаў аставаліся мы ў класе і самі рашалі заданні па матэматыцы, фізіцы, чыталі абавязковую літаратуру, якой нельга было атрымаць у бібліятэках, а толькі ў прыватных асоб. А часамі танцавалі пад гукі мандалінаў, балалаек, гітар — недзе ж іх здабывалі і амаль усе на іх ігралі пад кіраўніцтвам свайго сябра Яўгенія Гурскага з Міхалова. Усё гэта нас аб'ядноўвала, адпавядала таксама настаўнікам, якія перажылі акупацыю ў Беластоку і ўпершыню ад многіх год цешыліся нашым поспехам.

Па розных прычынах у наступным школьным годзе прадбачваўся вельмі малы чацверты клас. Таму запрапанавалі нам заняткі цэлыя канікулы па асноўных прадметах трэцяга класа, экзамен і далучэнне да чацвертакласнікаў. Згадзілася нас дзесяць асоб і мы дасягнулі мэты.

Умовы жыцця на кватэрах былі вельмі цяжкія. Ва ўцалелыя пасля вайны маленькія памяшканні іх уласнікі набіралі празмерную колькасць кватарантаў і на ўсіх была адна нафтавая лямпа. Абагравалі так ашчадна, што ў мяне аднойчы ў часе сну змерзліся канцы памытых валос. Ніхто з нас ад такіх глупстваў не хварэў. Два разы на працягу першай зімы нас арыштоўвалі, падазраючы ў спекуляцыі (а гэта яшчэ нічога страшнага) і ў выпадковым забойстве нейкай шайкай афіцэра міліцыі. Мелі мы ў апошнім няшчасці шчасце трапіць пад ахову нейкага партызана Пашкі, працаўніка польскай міліцыі, які на допыце ў нашай прысутнасці сказаў следчым, што ведае гімназію і што падазрэнні беспадстаўныя. Перажылі мы некалькі нямецкіх налётаў на Беласток, былі яны ўжо слабенькія, але жах наводзілі на нас артылерыйскія выстралы распалажаных непадалёк зенітных гармат.

Заканчэнне рэпартажа В. Валкавыцкай патрабуе пашырэння. У пачатку 1946 года па загаду савецкіх улад выехалі ў СССР дац. А. Корзун (матэматык, фізік) і С. Бліноў (русіст), а на Заходнія землі — дырэктар Б. Субоцін (беларусіст). Яго абавязкі прыняла А. Цімафеева. Матэматычным прадметам пачаў нас вучыць на ўласнай кватэры інжынер, дыякан беластоцкай царквы, прозвішча якога я не памятаю. На экзамен па гэтых прадметах куратория скіравала нас у сярэднюю школу К. Касінскага пры вул. Фабрычнай. Месячныя рэпетыцыі згадзілася даць настаўніца матэматыкі гэтай школы Зубулевіч. На экзамен з'явілася толькі адзінаццаць вучняў. Тагачаснае наша становішча дадаткова ўскладняла ідэалагічная барацьба, у тым ліку і ў асвеце. Нашыя будучыя экзаменатары апынуліся на другім рубяжы барыкады. І ўсё ж усе мы здалі экзамены.

Астатнія вучні чацвертага класа здавалі экзамены пазней

(Працяг на стар. 6)

## Свойскія малюнкі



*Стары Беласток. Баяры. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## РАМОНТЫ — ДАБРО І БЯДА

Культурнаю работаю ў Белавежы займаецца не адзін Гмінны цэнтр культуры са сваімі філіяламі ў Падалянах, Пагарэльцах і Тэрамісках. Шмат працуе для папулярызацыі культуры Гмінная публічная бібліятэка са сваімі тэрытарыяльнымі пунктамі. І іншыя ўстановы патроху таксама.

Аднак найбольш робіць той жа цэнтр. І разам з ім — бібліятэка. І як гэта заўсёды з культурнай дзейнасцю бывае, няма добрых памяшканняў, будынкаў. Капітальны рамонт Дома культуры прымусіў Гмінную бібліятэку перамясціцца ў пажарную „рамізу", а Гмінны цэнтр культуры ўвогуле стаў бяздомным. Вось табе і рамонт — прападае культурная дзейнасць...

Гмінны цэнтр культуры ратуецца як можа, і робіць, што дае рады ў такіх варунках. Вядзе ўсеагульны універсітэт, дзіцячы ансамблік „Малышкі", тэатрык лялек, нават фатаграфічную майстэраньку; някепска ўдаецца музычны ансамбль. Ёсць Школа палітычнага актыву жанчын. Арганізоўвае святкаванні ўсякіх гадавін, конкурсы: „Найпрыгажэйшы агародчык і панадворак" і „Белавежскія супастаўленні прыродазнаўчай фатаграфіі" з усепольскім абсягам.

Падставаю дзейнасці бібліятэкі ёсць, вядома, яе кніжны фонд, які налічвае каля чатырнаццаці тысяч адзінак. Шмат часопісаў. Наладжваюцца чытальніцкія конкурсы, літаратурныя вечарыны, аўтарскія сустрэчы.

У цэнтры і ў бібліятэцы працуе разам дзесяць асоб, з якіх усяго палова на цэлай стаўцы. Працуюць, відаць, няблага, калі атрымоўваюць усякія ўзнагароды за гэта, а дырэктар Гміннага цэнтра культуры Аня Байко была ўзнагароджанай Залатым крыжам заслугі.

Вельмі перашкаджае ў добрай культурнай рабоце не толькі той марудлівы рамонт, але і недахоп кіно. Белавежскі кінатэатр таксама стаў ахвяраю падобнага рамонту, а пры тым і разбудовы, па якой відаць, што няхутка канец гэтаму замяшанню будзе. Можна сказаць: рамонты зніштажаюць культуру ў Белавежы!

Даволі значную ролю, на шчасце, выконваюць у папулярызацыі культуры тут іншыя асветна-выхаваўчыя ўстановы. У мясцовым Лясным тэхнікуме існуе аж пятнаццаць гурткоў праблемных зацікаўленняў. У іх ліку такія, як: музыкальныя, чытацка-дэкламатарскія, пластыкі, танцавальны, тэатральны, паляўнічы, разьбы па дрэве, арніталагічны, біялагічны, гістарычны, матэматычны. У пачатковай школе падобная колькасць гэтакіх гурткоў, адзінаццаць.. Апякуюцца яны і месцамі нацыянальнай памяці, наладжваюць рэйды, паходы. Нямала робіцца ў гэтым сэнсе і ў Дзяржаўным доме дзіцяці.

На жаль, не ва ўсіх белавежскіх установах столькі актыўнасці, хоць і ў іх сёе-тое адбываецца, часамі цалкам займальнае. Трэба сказаць, што большасць устаноў не выкарыстоўваюць сваіх магчымасцяў для культурнай работы. У іх пераважаюць спажывецкія настроі, паводзіны балельшчыкаў, гледачоў. А колькі ж добрага маглі б учыніць, напрыклад, навукова-доследныя ўстановы, у якіх працуюць вельмі кампетэнтныя асобы!

Тутэйшы ГС не адным гандлем займаецца. Пад яго апякунчым крылом дзейнічае Асяродак сучаснай гаспадыні, Клуб гаспадара ў Будах. Гэтым асяродкам кіруе Тэрэса Ваўкавыцкая, асоба вялікай энергічнасці і інтэлектуальнай кемлівасці з шырокімі зацікаўленнямі, напрыклад, і літаратурнымі (сама трохі займаецца літаратурнай творчасцю). Адбываюцца тут курсы для жанчын і сустрэчы з цікавымі людзьмі, з пісьменнікамі (нядаўна — з Сакратам Яновічам). Для такіх імпрэзаў ГС не шкадуе і прыгожай кафэйкі „Зуброўка", у якой усё як трэба.

Без актыву не было б столькі зробленага, гэта так. Але і без клопату мясцовых улад сам актыў таксама няшмат зрабіў бы. Гмінная рада ў Белавежы дыскутавала і прыняла праграму развіцця культурнага жыцця ў гміне ў гадах 1987-1990. Прадбачваецца, што пасля рамонту Дома культуры будуць у ім — і кіно, і Гмінны цэнтр культуры, і бібліятэка. Побач чыгуначнай станцыі — плануецца пабудаваць амфітэатр. Гаворыцца ў праграме пра паляпшэнне абсталявання культурных асяродкаў. Будуць павялічаны зборы Галерэі сучаснага мастацтва. Узнікнуць новыя гурткі зацікаўленняў (думаецца, гурток аматараў мясцовай народнай культуры). А ўжо нямала было гаворкі пра аднаўленне Белавежскага народнага ансамбля, які калісьці быў і славіўся, ды прапаў ён неяк непрыкметна. Чаму?

У культурным жыцці Белавежскай гміны павінна шматшто змяніцца на лепшае.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



**Пагарэльцы, што ў Белавежскай гміне. Злева — клуб культуры, пабудаваны самімі пагарэльцамі.**

# ГОЛАД, ЯКІ РАДУЕ

У чатырох кіламетрах ад Бельска, паўз шашу ў Беласток, знаходзіцца вёска Праневічы — самая акуратная вёска ў Бельскай гміне. Па абодвух баках тратуара тут красуюцца клумбы з кветкамі, растуць маладыя ліпкі. Гэтая мясцовасць была вядомая ўжо ў XVI стагоддзі. І хоць з Праневіч маладыя хлопцы і дзяўчаты, як гаворыцца, уцякаюць у „места", аднак гэтая з'ява не такая трагічная сярод праневічанаў. Яшчэ шэсцьдзесят трох гаспадароў робяць свае гаспадаркі. Салтысуе ім ужо трэці год Яўген Мінкевіч. Шмат зроблена ў Праневічах грамадскім пачынам, пабудавана святліца і крама. „Рух" хацеў адчыніць свой клуб, але не маглі знайсці ахвотнай дзеля таго асобы. Падобнай бяды не было з чалавекам на пасаду прадаўшчыка ў краме, бо грошы тут-ка большыя. І малако ёсць каму прымаць, прымае яго Стэфа Гарашкевіч. Найбольш малака здае Уладзімір Хаманскі.

Аж да дзевяноста пяці гадоў дажыла Агата Шуй. Гэтакі ўзрост усё ж даволі часты ў нашых вёсках: доўга жывуць тыя, якія спакойна жывуць, без нерваў.

Цікавыя назвы праневіцкіх палеткаў: Верхлес, Вербнікі, Цыкоўшчына, Крынічка (на Крынічцы сапраўды ёсць крыніца, ад якой пачынаецца рачулка).

Трэба сказаць пару слоў пра жанчын праневіцкіх. Яны арганізаваліся, утвараючы гурток вясковых гаспадыняў. Вядзе яго Кацярына Мінкевіч, а належыць да гуртка трыццаць тры гаспадыні. Ладзяць яны ў сябе ўсякія курсы, напрыклад, пячэння пірагоў, кулінарныя паказы, ёлка з частункам. На сходзе гэтага гуртка пачалі гаварыць, каб запрасіць у Праневічы нашы „Васілёчкі" з Бельска, бо надакучыла ўжо слухаць тых крыкуноў па варшаўскаму тэлебачанню. І „Васілёчкі" прыехалі, далі канцэрт, а народ прыняў іх, як родных і пляскалі ім у далоні без канца, і нават паўстаўшы з крэслаў. Калі салістка Валя Мароз заспявала „Пра каваля", то слухачы ажно



Уезд у Праневічы.

дыхаць перасталі, так заслухаліся яны. Роднага хочуць наслухацца, роднае чалавеку патрэбнае, як хлеб і вада, як паветра грудзям! Была неяк сустрэча з нашай паэтэсай Надзяй Артымовіч, месяцаў тры назад, і трэба было бачыць, як некаторыя слухалі яе вершы, хоць яны не з лёгкіх, не ўсё ў іх адразу зразумееш, але слухалі іх, бо беларускія яны, бо нашыя, гэтак жа родныя, як і песні. Беларусы ў Праневічах галодныя ў культурным сэнсе, яны хочуць больш кантактаў з вялікай беларускай культурай, з яе нацыянальнымі вышынямі. Народнага ім мала, трэба ўжо нацыянальнага, а гэта значыць: глыбейшага, адпаведнага інтэлектуальным амбіцыям цяперашняга чалавека. Такі голад радуе!

**Андрэй Гаўрылюк**
Фота аўтара

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТ У БЕЛАСТОКУ

**(Працяг са стар. 1)**

Марыля Аліфер з Ляўкова. Марыля вельмі добра заспявала нялёгкую песню „Алеся". Таленавітая пяснярка расце нам у асобе Марылі!..

„Старым" ужо звычаем прайшоў трыумфальны фінал. Усе ўдзельнікі разам спявалі лірычную „Вяне рута", гімн беластоцкіх беларусаў — „Люблю наш край" і развітальную — „Бывайце здаровы". Беластоцкія гаспадары фэста сардэчна падзякавалі калектывам, а Люба Гаўрылюк уручыла кіраўнікам калектываў букеты кветак. А была гэта ўжо гадзіна 18-ая. Сонейка ўсё яшчэ міла грэла, а ў паветры ўсё яшчэ луналі плаўныя гукі беларускай песні.

**Вера Валкавыцкая**
Фота Я. Чэрнякевіч



Уладзімір Юрчук з беластоцкімі хлопцамі праспяваў вясёлую „Гарэліцу".



Беластачане цэлымі сем'ямі прыйшлі адпачыць.

## БУДЗЕ КЛУБ У ХІТРАЙ

Прыгожа і прыемна зараз у вёсцы **Хітрай** у Гайнаўскай гміне. Налічвае яна шэсцьдзесят дамоў. Адсюль бліжэйшы горад гэта Гайнаўка. У спомненай вёсцы паабапал вуліцы задбаныя дамы і роўныя платы, а ў прысялібных агародчыках поўна ўсялякіх летніх кветак. Многа тут таксама дрэў і дэкаратыўных кустарнікаў. Варта дадаць, што ў мінулым годзе Хітра заняла першае месца ў гміне ў конкурсе на найпрыгажэйшую вёску.

У вёсцы не было святліцы. Таму яе жыхары задумалі пабудаваць клуб. Быў арганізаваны грамадскі пачын. Зараз ужо гатовы фундамент. Калі закончаць сенакос ды ўборку збожжа, тады знойдзецца свабодны час, каб заняцца пабудовай культурнага аб'екта.

Пра тое, што сёлета ў ліпені ў Хітрай упершыню затрымаецца поезд на новым, пабудаваным супольнымі сіламі чыгуначным прыпынку. Праз месяц у Хітру будзе бліжэй. **(яц)**

**(Працяг са стар. 2)**

## НА МЯЖЫ

нашай „Нівы", ступень беларускасці, ступень беларускай свядомасці сярод нашай меншасці была б намнога меншая, чым яна ёсць сёння. Зразумела, што „Ніва" не стала універсальным антыдотум на асіміляцыю і не паставіла поўнасцю эфектыўнай плаціны, якая б нас, беларусаў, ахоўвала ад рэнегатызму і нацыянальнага прадажніцтва, але ўсё ж такі многіх людзей выратавала ад нацыянальнай гібелі. І таму, калі мы сёння стаім на парозе новага трыццацігоддзя дзейнасці БГКТ і існавання „Нівы", дык хацелася б мне верыць, што „Ніва" — верная дачка беларускай нацыянальнай меншасці — і ў далейшым будзе старацца дагадзіць і розным грамадскім станам, і розным узростам, і розным светапоглядам, словам, усім беларусам незалежна ад таго, куды іх кінуў лёс і да якога грамадскага класа ці прафесіі яны належаць.

**А. Барскі**

# БЕЛАРУСІКІ

### 1985


Kastory Bożena, Weź promień światła... (Instytut Elektroniki Białoruskiej Akademii Nauk) — Reaktor na szybkich neutronach. (Instytut Energetyki Jądrowej w Mińsku). Korespondencja z Mińska. *Zycie Warszawy* 1985, nr 168, 173, s. 5.

Kastory Bożena, Dlaczego im się chce? Notatki z Białorusi. Korespondencja z ZSRR. *Życie Warszawy* 1985, nr 170, s. 5.

Kastory Bożena, Zwierciadło bazyliszka. (Instytut Fizyki w Mińsku). Notatki białoruskie. *Zycie Warszawy* 1985, nr 184, s. 5.

Kennedy Grimsted Patricia, Archives and manuscript repositories in the USSR. Estonia, Łatvia, Lithuania and Belorussia. Princeton 1981. Rec. Borawska Teresa, *Zapiski Historyczne* 1985, z. 4, s. 151—154.

Kurzowa Zofia, Sytuacja językowa polskiej ludności wiejskiej w Litewskiej i Białoruskiej SRR. *Przegląd Polonijny* 1985, z. 3, s. 5—20.

Łojka Aleh, Janka Kupała. Moskwa 1982. Rec. Stochel Włodzimierz. *Slavia Orientalis* 1985, nr 1/2, s. 161—164.

Maldzis Adam, Biełaruś u lusterku miemuarnej litaratury XVIII stahoddzia. Mińsk 1982. Rec. Sielicki Franciszek. *Acta Universitatis Wratislaviensis nr 754 Slavica Wratislaviensia* 1985, t. 33, s. 135—137.

Maldzis Adam, Tradycje polskiego Oświecenia w literaturze białoruskiej XIX stulecia. Tł. z biełor. Włodzimierz Stochel. *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 7—17.

Monach Włodzimierz, Kresowizny i wschodniosłowiańskie elementy leksykalne i frazeologiczne w języku utworów i pism Orzeszkowej. *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 39—63.

Nowowiejski Bogusław, O rutenizmach leksykalnych w języku sokólskiej inteligencji. *Slavia Occidentalis* 1985, t. 42, s. 51—59.

Pograniczmyje wojska SSSR w gody Wielikoj Otieczestwiennoj Wojny 1942—1945. Moskwa 1976. Rec. Oniszczuk Michał, *Wojskowy Przegląd Historyczny* 1985, nr 1/2, s. 491—503.

Rogaska Maria, Białorusini w oczach piłsudczyków. *Kontrasty* 1985, nr 6, s. 30—36, il.


P.C.

(Працяг са стар. 4)

### АДГАЛОСКІ

у сярэдніх школах Беластока, Бельска, трапілі на надрыхтоўчыя курсы ў Варшаву, Лодзь і сталі студэнтамі вышэйшых школ. Большасць пачала настаўнічаць у беларускіх асяроддзях. Частка выбрала афіцэрскія школы, працу ў мясцовай міліцыі ці адміністрацыйных уладах. Некалькі асоб разам з дырэктар А. Цімафеевай эвакуіраваліся ў СССР дзеля прадаўжэння вучобы. Сама дырэктар яшчэ многа год працавала настаўніцай сярэдняй школы ў Брэсце, дзе я наведаў не ў 1953 годзе, будучы ўжо студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску.

Не здолеўшы скамплектаваць адпаведных кадраў і пераацэньваючы вынікі рэпатрыяцыі мясцовага беларускага насельніцтва, школьныя ўлады закрылі гімназію з канцом 1945/46 школьнага года. У не будынку была створана пачатковая школа.

Гэта праўда, што гімназія, як піша ў рэпартажы В. Валкавыцкая, дала нам „моцны білет у жыццё“ і што ўсе мы захоўваем аб ёй добрую памяць. Але ніколі чамусьці не арганізавалі сустрэч на ўзор бяльчан. Аб сабе ведаем толькі з сяброўскіх пераказаў, што нехта стаў навуковым працаўнікам, настаўнікам, інжынерам, геолагам, лекарам, пісьменнікам. Няма ў Беластоку аб'ядноўваючай установы, якая змагла б арганізаваць сустрэчу.

Трэба, каб гэтае заданне ўзяло на сябе БГКТ з нагоды 45-ай гадавіны заснавання гімназіі. Арганізацыйныя справы прымем на сябе.

**У. Юзвюк**



### КРАТЭР-ГІГАНТ

**У КНР, у правінцыі Хэбэй, знойдзен велізарны кратэр ад надзення метэарыта, якое здарылася каля 136 мільёнаў гадоў назад. Дыяметр кратэра — 70 кіламетраў. Усяго на Зямлі вядома больш ста метэарытных кратэраў дыяметрам больш кіламетра.**

# ЧОРНА ХМАРА

**(Балада пра расстрэл вёскі Райск)**

Словы Мікалая Ігнацюка, ноты запіс Пятра Нявінскага. (Песню Рыбалаўскага калектыву друкуем на просьбе Марыі Федарук, родам з Райска)



Ранняю вясною
Зязюля кавала,
Дзяўчынонька пра вяселле
У зязюлі гадала.

Красавалась поле,
Збожжам хвалявала,
Хлопцы вечарам спявалі,
Дзеўка памагала.

Вёска беларуска
Ў зелені стаяла
І не знала, што ёй доля
Сумна прыпадала.

Збоеныя немцы
Раніцай улетку
Акружылі ўсё сяло,
Сталі ад палеткаў.

Каты, і з сабакамі,
Ўвесь народ сагналі.
Сялян катавалі,
Бандай называлі.

Шаснаццатага чэрвеня
Прыгавор чыталі:
Сто сорак дзевяць чалавек
З Райска расстралялі...

Падпалілі вёску —
Чорна хмара стала...
Толькі белая царкоўка
На ўзгорку астала.

Загадалі гітлераўцы
Царкву разваліці,
Бо на райскай ўжо зямлі
Век не будуць жыці.

Плакала дзяўчына
З суседняе вёскі,
Яе мілага забілі —
Упаў ён ля бярозкі.

Чом цябе я ўчора
Ўвечар не ўтрымала?
Лён палола, наракала
Слязьмі палівала.

Там брацкая магіла —
Растуць ліпы, дубочкі.
Навясне ім салавей
Спявае цэлыя ночкі.

Зямлі жадаем міру!
Людзям — добрай мары!
Каб у жыцці ніхто не ўбачыў
Райскай чорнай хмары!

Песня выклікала вялікі грамадскі рэзананс, узрушыла слухачоў. На раённым аглядзе ў Маладзёжным доме культуры ў Беластоку, дзе „Хлопцы-рыбалоўцы“ заспявалі песню першы раз, іх акружылі маладыя і старэйшыя — хацелі мець словы. 15 асоб тады запісалі словы ад рыбалаўцаў. Многія песню запісалі на касеты.

### „САМО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ“

Пад канец мінулага года ў Мінску выйшла з друку новая кніга прафесара Фёдара Янкоўскага пад загалоўкам: „Само слова гаворыць“.*) Кніга змяшчае філалагічныя эцюды, абразкі і артыкулы, а ўсё гэта прасякнута любоўю да роднай мовы. Змест кнігі такі цікавы, што ад яе нельга адарвацца. Тут на кожным кроку чытач сустракае моўныя залацінкі, якія аўтар знаходзіць у нашай багатай мове. Каб так пісаць, патрэбны глыбокія веды карэннаў беларушчыны.

У раздзеле „У нашых кніжках“ аўтар хваліць тое, што напісана добра, але і не даруе таму, хто піша дрэнна. Вось, напрыклад, нехта напісаў, што „ветраныя млыны ўзводзіліся...“ Вядома, што на Беларусі людзі ведаюць вятрак. Ды да таго ж ветракі заўсёды будавалі, ставілі, але не „ўзводзілі“.

Змаганне за чысціню беларушчыны гэта справа кожнага, хто любіць сваю мову. Кніга Ф. Янкоўскага — гэта вялікая помач у гэтым змаганні. Яна патрэбна кожнаму, хто пра роднае слова дбае.

Кніга канчаецца наступнымі радкамі:

„Жыві наша слова. Як жылі і жыць будуць нашы неацэненыя Францішак Скарына і Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і Максім Багдановіч, Янка Купала і Якуб Колас. Як жыла і каб жыла, цвіла яна — Беларусь. Жыві наша слова!“

**Баляслаў Манкевіч**

*) Фёдар Янкоўскі: „Само слова гаворыць“. „Мастацкая літаратура“. Мінск 1986. Стар. 320.



# ДЗЯДЗЬКА І ПЛЯМЕННІК

Калі сыны вялікага Гедыміна — за выключэннем найменшага з іх, Яўнуты — яшчэ неяк патрапілі сунімаць асабістыя амбіцыі, захоўваць еднасць дынастыі і вернасць бацькаўшчыне, то ўнукі гэтага будаўніка магутнасці Вялікага княства Літоўскага кіраваліся толькі сваімі ўласнымі імкненнямі і выгодамі ды цалкам не лічыліся з агульнадзяржаўнымі інтарэсамі. Як відаць з папярэдняга, той ды сёй з Гедымінавых унукаў шукаў шчасця на службе ў суседніх краінах: Бутаўт Кейстутавіч падаўся ў Нямеччыну, Дзмітры Альгердавіч пераехаў на сталую службу ў Маскоўскае княства, Юрый Карыятавіч пайшоў у Малдавію, значны час падпарадкоўваліся каралю польскаму Казіміру Вялікаму Аляксандр Карыятавіч і Юрый Нарымунтавіч, безвынікова шукаў шчасця таксама на Казіміравым двары Канстанцін Карыятавіч. Іншыя ж, хоць і сядзелі на сваіх удзелах, але вялі менш ці больш незалежную, а то і адкрыта варожую Вялікаму княству палітыку, уваходзячы ў саюзы з яго ворагамі, як Уладзімір Альгердавіч кіеўскі ці Карыбут-Дзмітрый Альгердавіч наўгародска-северскі, або прыводзячы польшчыны непрыяцельскіх войск і разам з імі рабуючы і зніштажаючы родны край, як Андрэй Альгердавіч полацкі. Вядома, да такога ўсялякімі спосабамі заахвочвалі суседзі: надбівалі пахвааламі, прываблівалі ганаровымі званнямі і пасадамі, нацкоўвалі аднаго на другога рознымі інтрыгамі, ахвотна пасылалі войскамі — усё дзеля аслаблення Вялікага княства. Такім чынам найбольшай у тагачаснай Еўропе па тэрыторыі і колькасці насельніцтва ды наймагутнейшай па вайсковай сіле (яна ж першая ў гісторыі разграміла над Сіняй Вадой у 1362 г. непераможныя дагэтуль полчышчы Залатой арды) Старабеларускай дзяржаве пачаў пагражаць распад і крушэнне. Дасканала ўсведамлялі тое ўсе, але ратаваць ранейшую веліч дзяржавы ўзяліся толькі Кейстут і Ягайла-Якаў, але кожны па-свойму, таксама з пункту гледжання ўласных інтарэсаў.

Кейстуту была падуладна заходняя частка дзяржавы і яе галоўным ворагам былі крыжакі. Яны з кожным годам узмацнялі націск на ўсход, асабліва на Жмудзь, якая аддзяляла іх ад уладанняў іхніх братоў у Лівоніі (Інфлянтах). Таму ў змаганні супраць крыжакоў Кейстут абапіраўся на беларускіх і жмудскіх землях і шукаў падтрымкі або спакою з боку Маскоўскага княства. Ягайлу ж па бацьку дасталася ўсходняя частка Вялікага княства, і ён вымушаны быў супрацьставіцца „збіранню ўсіх рускіх земель“ маскоўскім князям. Ягайла таксама абапіраўся ў асноўным на беларускіх і часткова жмудскіх і ўкраінскіх землях, але мір, а то і дапамога яму была патрэбна ад крыжакоў і татараў. І ў гэтым таіўся зарадак супярэчнасцей паміж Кейстутам і Ягайлам.

У першыя гады пасля смерці Альгерда дзядзька Кейстут з пляменнікам Ягайлам ладзілі паміж сабой даволі добра і ўдала ажыццяўлялі супольныя паходы супраць крыжакоў і іншыя акцыі. Але розніца ў палітыцы — Кейстут быў, кажучы сённяшняй мовай, ападыктычным кансерватарам, а Ягайла паводзіў сябе як эластычны прагматык — і перш за ўсё ў асабістых інтарэсах хутка адчужылі іх, а інтрыгі родзічаў і суседніх дзяржаў зрабілі заядлымі ворагамі адзін другога.

Ажыццяўляючы сваю палітыку, Ягайла 31 мая 1380 г. патаемна ад Кейстута заключыў з крыжакамі пагадненне аб „вечным міры“, паводле якога крыжакі толькі для віду будуць непакоіць Ягайлавы ўладанні, а ўсёй сваёй моцай стануць атакаваць Кейстутавы землі. Ягайла ж, каб не выклікаць падазрэнняў у дзядзькі, будзе нібыта ба-

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАХАДЫ ПРЫ НЯБОЖЧЫКУ

Практычна ўсе інфарматары старэйшага пакалення сцвярджаюць, што ў мінулым усім памёршым клалі ў труну манеты. Рабілі гэта з той мэтай, каб нябожчык меў чым аплаціць перавозчыка праз раку, якую трэба пераадолець на дарозе ў рай.

Нярэдка здараліся выпадкі, што жанчыны мужам, якія любілі выпіць, клалі ў труну кручок або паўлітроўку гарэлкі.

Калі памірала асоба, якая адзначалася зласлівасцю, дакучлівым характарам, тады ў труну сыпалі жменю маку. Рабілі гэта з той мэтай, каб нябожчык быў заняты пералічваннем зёран маку і не меў часу на наведванне хаты і палоханне яе жыхароў.

У вёсцы Вітава нябожчыку, асабліва памёршым жанчынам, клалі ў труну загадзя абрэзаныя валасы і грэбень, кіраваліся пры гэтым пераканаםнем, што нябожчыца будзе мець у небе многа часу і таму займецца чачаннем валасоў як тых, якія знаходзяцца на яе галаве, так і тых, якія дадаткова ўложаны ў труну. У тым жа Вітаве нябожчыку пад галаву клалі пучок свянцонага зелля; якое мела адстрашваць ад труны сатанічныя сілы, што хацелі б завалачы нябожчыка ў пекла.

Наогул маладыя асобы не толькі не прымалі ўдзелу ў мыцці цела нябожчыка і яго апрананні, але таксама ва ўкладанні яго ў труну. У розных мясцовасцях па-рознаму інтэрпрэтуецца гэты момант. Найчасцей аднак паўтараецца суджэнне аб тым, што ўдзел маладых у пахавальных захадах мог бы выклікаць бяздзетнасць маладых жанчын. Досыць часта паўтараецца таксама меркаванне, што ў тых маладых асоб, якія прымалі б удзел у падрыхтоўцы нябожчыка да пахавання, не ўзыходзіла б збожжа і гароднiна, а калі б нават узыходзіла, дык не расло б.

У многіх мясцовасцях усходняй Беласточчыны жонкі або мужы нябожчыкаў і нябожчыц знімалі з пальца абручальныя пярсцёнкі і клалі іх у труну.

Наогул, аднак, вясковая грамадскасць успрымала гэта адмоўна. Справа ў тым, што так рабілі толькі тыя асобы, якія рашаліся такім чынам на „правядзенне разводу“. Уложаны ў труну пярсцёнак „даваў права“ ўдаве ці ўдаўцу другі раз уступіць у сужонства.

У воз, на якім везлі нябожчыка, наогул не запрагалі маладых кабыл, баючыся, што выкліча гэта ў яе бясплоднасць. Па сутнасці, ва ўсіх беларускіх мясцовасцях выступаюць рознага тыпу захады, якія прымяняліся пасля вынясення нябожчыка з хаты. Захады гэтыя найчасцей былі звязаны з тым, каб не баяцца нябожчыка. У большасці вёсак жыхары хаты, з якой быў вынесены нябожчык, заглядалі ў комін. У вёсцы Грэдалі гэтай жа мэце служыць сяданне на лаве, на якой толькі што стаяла труна. У некаторых вёсках на гэту лаву клалі буханку хлеба. Рабілася гэта з той мэтай, каб у данай сям'і ніколі не выступаў недахоп хлеба. Трэба сказаць, што гэты захад досыць „нелагічны“ і як бы супярэчлівы ў адносінах да многіх другіх, якія нябожчыка трактуюць як сімвал смерці, а не сімвал жыцця.

Амаль ва ўсіх беларускіх вёсках усходняй Беласточчыны пасля вынясення нябожчыка не замяталі хаты. Рабілі гэта з той мэтай, каб смерць „не вымела“ ўсіх членаў сям'і.

Многія найстарэйшыя інфарматары гавораць, што калісьці ў часе эпідэмій, якія наведвалі іх мясцовасці, існаваў звычай укладання нябожчыку пад падушку замкнутага замка разам з ключом. Пры гэтым трэба было выказаць формулу: „Ужо досыць нябожчыкаў“ або „Замкніся смерць назаўсёды!“ Пасля гэтага захаду выносілі труну з целам нябожчыка не праз дзверы, а праз вакно. Захад гэты астаецца, несумненна, у сувязі з ужо прадстаўленым мною ў характарыстыцы абраднасці нарадзільнай і хрысціннай, захад выношвання праз акно дзіцяці да хрысту. І там і тут справа ў тым, каб ашукаць смерць.

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, у маім жыцці здарылася вялікае няшчасце. Нічога не прадказвала бяды: я вельмі добра выйшла замуж і праз год у нас нарадзіўся цудоўны сынок. Але ад часу, калі ён нарадзіўся, нешта з маім здароўем было не так, і я ўрэшце звярнулася да доктара па жаночых хваробах. Доктар прызнаў у мяне страшэнную хваробу — рак. І так у 26 гадоў мяне палажылі на гінекалагічнае аддзяленне, дзе выразалі з мяне ўсё, што маглі.

З пачуццём страшэннай крыўды вярнулася я дахаты, але тады я яшчэ не ведала, якім кашмарам стане маё жыццё. Пачуццё непаўнацэннасці, нейкі жаль да ўсяго свету, што не магу ўжо мець больш дзяцей, боязь наблізіцца да мужа прыгняталі мяне. Я, як кажуць, набавілася комплексаў. Мне здавалася, быццам бы я пустая ў сярэдзіне і аб гэтым ведае ўвесь свет. На жаль, мой непакой перадаўся майму мужу. Нашы палавыя зносіны сталі проста немагчымымі. Маю тут на думцы, вядома, не тое, што былі яны фізічна немагчымымі. Сталі яны немагчымымі ў сэнсе псіхічным. Калі толькі муж набліжаўся да мяне, мне здавалася, што я яго ніяк не змагу задаволіць: ну як жа, я ж ужо пустая, у мяне ж нічога не засталося з жаночасці...

Усё гэта прывяло да таго, што мой муж наогул перастаў думаць пра нейкія збліжэнні і штораз часцей стаў разглядацца па баках. А ўжо праз год то мы жылі адзін з другім проста як сябар з сяброўкай. Мой муж часамі не вяртаецца па тры дні дахаты, а я ў той час, каб заліць свой боль і тугу па мінулым, якое ўжо ніколі не вернецца, пачала штораз часцей піць.

Наколькі мне вядома, ніякай пастаяннай бабы ў майго мужыка няма. Ён мне тлумачыцца, што або быў у камандзіроўцы і затрымаўся на даўжэй, або запіўся ў некага з сяброў, але мне гэтыя тлумачэнні непатрэбны, бо я і так ведаю, што ва ўсім гэтым мая віна: я ж не магу яму даць таго, што можа даць яму першая-лепшая баба. І мо, каб не мая хвароба, змаглі б мы пабудаваць добрую, вялікую сям'ю, а так то ўжо і сама не ведаю, што будзе са мной, з нашай сям'ёй і з маім адзіным, каханым сыночкам. Баюся, каб не застаўся ён сіратою, бо мужык можа кінуць нас, а часамі дык наогул прыходзіць мне ў галаву такая думка, каб пакончыць жыццё самагубствам...

**Анеля**

Анеля! Справа твая нялёгкая. І хаця не пішаш ты, колькі табе гадоў, то можна падазраваць, што не больш трыццаці, і жыццё, здавалася б, яшчэ перад табою. Але твая хвароба, думаю, не столькі акалечыла цябе фізічна, колькі зрабіла адмоўны ўплыў на тваю псіхіку. Фактычна, апрача таго, што ты не можаш больш радзіць дзяцей, нічога не здарылася. Адзін сын жа ў цябе ёсць, а пасля такой аперацыі тысячы жанчын даеканала даюць сабе рады ў справах сексу. Можа, трэба было б табе нейкай парады ў сексуолага, які напэўна дапамог бы табе стаць нармальнай жанчынай Можа, перашкаджае табе ў тым факт, што твой муж ведае аб усім, што здарылася з табою?.. У кожным разе гэта было б намнога лепшым выйсцем і для цябе і для твайго сыночка, чым думка аб тым, каб пакончыць жыццё самагубствам, і піць без меры гарэлку.

**Сэрцайка**

## СОННІК

32

**Пантэра** — страх.
**Панчохі** тонкія — беднасць; падзёртыя — вялікія грошы.
**Папа** рымскі — шчасце; быць ім — многа зайздросных.
**Папера** — важная звестка; пісаць на ёй — непрыемны ліст; падзёртая — страціш пасаду, палажэнне; каляровая — добрыя звесткі; друкаваная — давер; рваць — гнеў; рыхтаваць, вырабляць — карысць для інтэлекту, розуму; схільнасць да прыгод.
**Папрыка** — вялікі гнеў.
**Папугай** — бескарыслівая балбатня; чуць яго — здрадзіш даверлівасць.
**Пара** (з вадкасці) — планы не ўдадуцца.
**Паравоз** — вымушанае падарожжа; пільныя справы або неспадзяванае наведанне; едзе — табе пагражае небяспека.
**Парад** (дэфілада) — непатрэбныя выдаткі.
**Парада** — даваць яе — клапоцішся пра дробязі; даюць яе табе — адплоцяць табе няўдзячнасцю.
**Парадкаваць** — знойдзеная згуба.
**Паражэнне** — паступай прыстойна, рабі добра.
**Парасон** — знойдзеш дапамогу; асцярожнасць не пашкодзіць; падзёрты — прыкрае расчараванне.
**Парася** — добры сябра; карміць — асцерагайся ашуканцаў; печанае — боль.
**Парахно** — блізкая смерць.
**Парашут** — хвароба.
**Парк** — прыемнае жыццё; засноўваць яго — прыгожае падарожжа; шпацыраваць па ім — усмешка шчасця.
**Парог** — пабудуеш дом.
**Паром** — дабіцца здзяйснення намераў.
**Пароць** — страты.
**Партрэт** — выправіць памылкі; уласны — новая любоўная прыгода.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

Маладая бульбачка ўжо ёсць. Як яе варыць, бадай, ніводнай беларускай жанчыне гаварыць не трэба. Для тых маладзенькіх, аднак, можам напомніць. Абскрэбці бульбу, памыць яе, заліць гарачай вадой, пасаліць і зварыць на малым агні. Ваду адцадзіць, 2-3 мінуты патрымаць бульбу на малым агні, а тады пасыпаць зялёным укропам. Некаторыя гаспадыні кладуць сцяблінку ўкропу тады, калі бульба варыцца. Бульба тады мае вельмі прыемны арамат. Пасыпаць сырым укропам таксама яшчэ можна. Вельмі смачная такая бульба са скварачкамі ці маслам, а да таго з кіслым малаком. У беларускай кухні бульбу часта падаюць і з радыскай са смятанай, з селядцом з цыбуляй, а зімою з кіслай капустай, запраўленай алеем. Паколькі распачаўся якраз грыбны сезон, то сёння падаем два рэцэпты на бульбу са свежымі грыбамі.

### БУЛЬБА, ТУШАНАЯ З ГРЫБАМІ

На 10 вялікіх бульбін узяць 3 цыбуліны, паўкілаграма свежых грыбоў, 4 сталовыя лыжкі масла або 100 г саланіны, лаўровы лісток, зялёную пятрушку, перац, соль.

Ачышчаныя і памытыя грыбы заліць кіпетнем, а пасля падсмажыць на масле або саланіне разам з нарэзанай цыбуляй. Бульбу абабраць, парэзаць на даволі вялікія кавалкі, падсмажыць і палажыць разам з грыбамі ў каструлю, даліваючы крыху вады. Дадаць соль, лаўровы ліст, перац і стушыць на малым агні. Падаючы, страву трэба пасыпаць зялёнай пасечанай пятрушкай.

### БУЛЬБА З ГРЫБАМІ Ў СМЯТАНЕ

На 10 бульбін узяць паўкілаграма грыбоў, 3 цыбуліны, сталовую лыжку мукі, 3 лыжкі масла, паўшклянкі смятаны, зеляніну, перац, соль.

Нарэзаную бульбу крыху падсмажыць, пасля чаго змяшаць з варанымі грыбамі і яшчэ смажыць. Дадаць падсмажаную цыбулю, муку, перац і смятану, усё добра перамяшаць, накрыць вялікую патэльню крышкай і на мінут 5-10 уставіць у духоўку.

**Гаспадыня**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА**

## ПАКАЦІ-ГАРОШАК

**(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары)**

Забіў Цмок госця, вочы выкалаў, а самога ў стайні да бэлькі падвесіў.

Мінуў дзень-другі, не вярнуўся старэйшы брат. Тады малодшы брат кажа бацькам:

— Пайду я сястру шукаць.

Шкада бацькам пускаць яго ў невядомую дарогу, адзін ён у іх застаўся. Пачалі яны яго адгаворваць.

— Не, — кажа малодшы сын, — пайду.

Сабраўся і пайшоў.

Ну, вядома, і з ім сталася тое ж, што і з большым братам.

Даведалася пра гэта Палашка, моцна загаласіла:

— Ах, гаспадар! Чаму ты маіх родных братоў са свету звёў? Засталіся ў мяне цяпер адны толькі старыя бацькі мае. Калі так, дык забі і мяне ды павесь у сваёй стайні разам з братамі...

— Не, — ухмыляецца Цмок, — табе я такой смерці не зраблю, бо ты мне — слуга. А вось калі бацьку і матку злаўлю, дык адразу заб'ю, каб ты больш пра іх не думала.

Кепска стала жыць бацькам без дзяцей. Сядзяць яны ды бядуюць: хто іх на старасці дагледзіць, хто пахавае...

Пайшла аднаго разу баба па ваду. Бачыць: коціцца па дарозе гарошынка. Падняла яна тую гарошынку ды з'ела. А праз нейкі час нарадзіўся ў яе хлопчык. Ды такі прыгожанькі — поўны, кучаравы, русавы. І далі яму бацькі імя — Пакацігарошак.

Расце хлопчык не па днях, а па гадзінах. Радуюцца бацька і маці — будзе ім на старасць падмога. Адна толькі бяда: дакранецца да каго з дзяцей Пакацігарошак, гуляючы, — той і падае, як сноп. Кожны дзень прыходзяць да дзеда і бабы суседзі скардзіцца, што Пакацігарошак іх дзяцей крыўдзіць.

Так ён і гадаваўся.

Аднойчы пачаў Пакацігарошак распытвацца ў маткі:

— Чаму я адзін у вас? Чаму ў мяне няма ні брата, ні сясцёр?

Маці выцерла ражком хусткі слёзы і кажа:

— Былі ў цябе, сынок, і браты і сястра...

— А дзе ж яны? Калі паўміралі, то я нічога зрабіць не магу, а калі ў няволю трапілі, то вызвалю іх пайду.

Расказала маці, што ведала пра сваіх дзяцей.

Назаўтра Пакацігарошак пайшоў на вуліцу гуляць. Знайшоў там старую шпільку, прынёс у хату і кажа бацьку.

— Нясі, тата, гэтую шпільку да каваля, скажы, каб выкаваў з яе булаву на дванаццаць пудоў.

Бацька нічога яму не сказаў, а сам сабе падумаў: „Вось жа дзіця ў мяне нарадзілася, не такое, як у людзей. Малы яшчэ, а ўжо з бацькі жартуе. Дзе ж гэта бачылі, каб са шпількі дванаццаціпудовую булаву хто выкаваў?"

Закінуў бацька шпільку на паліцу, а сам паехаў да каваля і

**(Працяг на стар. 10)**

## АЧАРАВАННЕ

„Зорчыны" лаўрэаты на беларускім фэсце ў Беластоцкім амфітэатры спявалі для 3-тысячнай публікі свае песні.



**Унізе дуэт Славіка Ваўранюка і Геніка Шаратухі з Дубяжына (II узнагарода ў катэгорыі малых вакальных калектываў у конкурсе „Беларуская песня-87") праспяваў у Беластоку „Купалінку" і „Белую хусцінку".**

**Справа Марыня Аліфер са Старога Ляўкова — лаўрэат II узнагароды ў катэгорыі салістаў, спявала ў Беластоку „Козачку" і „Алесю".**

„Зорка" вельмі рада, што яе школьныя сябры пачалі выступаць са сваімі песнямі на вялікіх сцэнах перад дарослай публікай. Каб так далей!



## СЯМЁРА МАСТАКОЎ

**Казка**

У адным старажытным горадзе было сямёра мастакоў. Горад, у якім яны жылі, быў вельмі змрочны. Заўсёды над ім віселі шэрыя хмары. І ўсё, што малявалі мастакі, было шэрае. Бо яны думалі, што неба можа быць толькі шэрага колеру. І лісьце толькі шэрае. І ўсё-ўсё наўкола — шэрае. Таму і фарбы ў іх былі таксама шэрыя. Яны не маглі маляваць іншымі.

Аднойчы на горад наляцеў вецер і разагнаў хмары. Мастакі выбеглі на вуліцу і не паверылі сваім вачам.

— Ой, якое прыгожае неба! — сказалі яны.

— Ой, якое прыгожае сонца! — сказалі яны.

— Ой, якое прыгожае лісце на дрэвах! — сказалі яны і адразу ж узяліся маляваць. Але на паперы ўсё выйшла непрыгожа. Таму што ў іх была адна шэрая фарба. Сямёра мастакоў цяжка ўздыхнулі. Што ж ім рабіць? Як навучыцца прыгожа маляваць? Тады адзін з іх сказаў:

— Сябры, пойдзем фарбы шукаць!

Узялі мастакі сем пэндзлікаў і сем вядзерцаў і пайшлі фарбы шукаць.

Доўга вандравалі яны па белым свеце і ўсяму дзівіліся. А дзівіцца было чаму. Бо яны ж усё жыццё пражылі ў змрочным шэрым горадзе і не ведалі, што ёсць на свеце чырвоны-чырвоны мак, што ёсць бялюткі рамонак з залаціста-жоўтай сярэдзінкай, што сонца ўранку аранжавае, а ўвечары малінавае.

Яны любаваліся прыродай, многа спазнавалі і стараліся ўсё запомніць.

Аднаго разу мастакі падняліся на вяршыню самай высокай гары. Адтуль усё было відаць навокал: і рэкі, і лясы, і лугі — уся дарога, якую яны прайшлі. Залюбаваліся мастакі і пачалі марыць.

— Ах, як бы я хацеў намаляваць мак! — сказаў адзін.

— А я — сонца! — сказаў другі.

— А я кветку лотаць! — сказаў трэці.

— А я лісточак! — сказаў чацвёрты.

— А я неба! — сказаў пяты.

— А я званочак! — сказаў шосты.

— А я фіялку! — сказаў сёмы.

І як толькі яны гэта сказалі, на небе з'явілася сямікаляровая вясёлка.

Убачылі мастакі вясёлку і вачам сваім не паверылі.

— Ах, якія фарбы! — уздыхнулі яны.

— Я бачу фарбу, як мак! — сказаў адзін.

— А я — як сонца! — сказаў другі.

— А я — як лотаць! — сказаў трэці.

— А я — як лісточак! — сказаў чацвёрты.

— А я — як неба! — сказаў пяты.

— А я — як званочак! — сказаў шосты.

— А я — як фіялку! — сказаў сёмы.

І раптам адзін канец вясёлкі апынуўся каля самых ног мастакоў. І яны ўбачылі перад сабой сем каляровых дарожак.

Чырвоную, як мак.
Аранжавую, як сонца.
Жоўтую, як лотаць.
Зялёную, як лісточак.
Блакітную, як неба.
Сінюю, як званочак.
Фіялетавую, як фіялка.

— Ура! — закрычалі мастакі. — Нарэшце мы знайшлі фарбы

Кожны выбраў сабе сваю дарожку і пайшоў па ёй.

Прайшлі мастакі па ўсёй вясёлцы. І ўзяліся маляваць. Ім не цярпелася хутчэй даведацца, якога колеру фарбы ў іх вядзерцах.

Узялі яны вялікі ліст паперы, і кожны па чарзе правёў па ёй сваім пэндзлікам. Выйшла сямікаляровая вясёлка.

Мастакі былі шчаслівыя. Цяпер яны маглі намаляваць усё, што хацелі.

А што сталася з вясёлкай? Яна знікла.

Калі ж яе пойдуць шукаць новыя мастакі, яна зноў паявіцца.

**Алена Кобец-Філімонава**

(Працяг са стар. 9)

# ПАКАЦІГАРОШАК

заказаў яму дванаццаціпудовую булаву.

Увечары прывозіць булаву. Узяў Пакацігарошак булаву, выйшаў на агарод, размахнуўся і шпурнуў яе ў неба. А сам вярнуўся ў хату і лёг спаць. Бацька аж за галаву хапіўся.

Назаўтра ўстаў Пакацігарошак, прыпаў правым вухам да зямлі, слухае: гудзе зямля!

— Бацька! — кліча сын. — Ідзі паслухай, булава назад з неба варочаецца.

Падставіў ён калена, булава ўдарылася аб калена і пераламалася папалам. Паглядзеў на яе Пакацігарошак і кажа:

— Ты мне, тата, зрабіў булаву не з таго жалеза, што я табе даў. Скажы кавалю, каб зрабіў з той шпількі!

Пачухаў бацька патыліцу ды зноў паехаў да каваля, на гэты раз ужо са шпількаю.

Здзівіўся каваль — як можна са шпількі дванаццаціпудовую булаву выкаваць! Але ўзяўся за работу. Укінуў шпільку ў агонь, а яна давай расці, як на дражджах. Расце і расце.

Зрабіў каваль са шпількі дванаццаціпудовую булаву, ды яшчэ вунь колькі жалеза засталося...

Прывёз бацька булаву дахаты. Сын паглядзеў на яе і пытаецца:

— З чаго каваль булаву каваў? Мо зноў не са шпількі?

— На гэты раз, — кажа бацька, — зроблена ўсё так, як ты прасіў.

Ускінуў Пакацігарошак булаву на плечы, развітаўся з бацькам, з маткай ды і пайшоў у белы свет — сястру і братоў шукаць.

Шмат часу ішоў ці мала, але нарэшце трапіў-такі да Цмокавага палаца. На двары сустрэла яго Палашка.

— Хто ты такі? — пытаецца. — І чаго прыйшоў сюды? Тут жа страшны Цмок жыве...

Расказаў ёй Пакацігарошак, хто ён і куды ідзе.

— Не, — кажа Палашка, — няпраўда гэта: былі ў мяне два браты, ды іх паганы Цмок пазабіваў і да бэлькі ў стайні падвесіў. А ты не мой брат.

І не паверыла.

— Дык дазволь хоць пераначаваць у вас? — папрасіўся Пакацігарошак.

Пайшла Палашка да Цмока.

— Што гэта ты такая смутная? — пытаецца ў яе Цмок.

— Ды вось прыйшоў нейкі хлапец і кажа, што ён мой брат. Просіцца хоць пераначаваць з дарогі.

Узяў Цмок сваю чараўнічую кнігу, разгарнуў яе, паглядзеў і кажа:

— Так, у цябе яшчэ будзе яшчэ адзін брат... Але не гэты. Гэты маніць. Пакліч яго сюды, я з ім сам пагавару.

Прыйшоў Пакацігарошак да Цмока.

— Добры дзень, гаспадар!

— Добры дзень, госць.

Паставіў Цмок на стол свой жалезны боб.

— Садзіся, — паказаў Пакацігарошку на жалезнае крэсла.

Пакацігарошак як сеў, дык крэсла і развалілася пад ім.

— Э, гаспадар, — дзівіцца Пакацігарошак, — слабыя ж у цябе крэслы! Хіба не маеш добрых майстроў, каб моцныя крэслы зрабілі?

Спужаўся Цмок. Прынёс другое крэсла, мацнейшае.

Сеў Пакацігарошак за стол. Цмок падсунуў яму жалезны боб.

— Частуйся.

— А я такі і выгаладаўся за доўгую дарогу, — кажа Пакацігарошак.

І пачалі яны жалезны боб есці. Цмок жменю ўсыпле ў свой рацішча, а Пакацігарошак — дзве. Есць, аж за вушамі трашчыць.

З'елі ўвесь боб.

— Ну як — наеўся? — пытаецца Цмок.

— Слабавата. Толькі чарвячка замарыў.

Бачыць Цмок: у ядзе не справіцца яму з гэтым хлопцам!

**(Заканчэнне будзе)**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 31. Ліда Баравец, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 92, кв. Аксана Рудзікава, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 17. Валя Лосева, 2 клас.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Болдзіна, 10, кв. 37, Света Фомчанка, 4 кл.

* * *

БССР, 230015, г. Гродна, БЛК — 12, кв. 33, Гена Ўулеў, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Горкага, 26, кв. 4, Алег Прушынскі, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Каліноўскага, 3а, кв. 53, Андрэй Краснавіцкі, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Горкага, 78/1, кв. 27, Іна Малышка, 4 кл.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Дзеці паехалі на экскурсію. Па дарозе настаўніца расказвае: — Тут калісьці, мільёны гадоў назад было мора.

Усе дзеці слухаюць, што настаўніца раскажа яшчэ, а наймалодшы Пеця разважае:

— Мора... Ну так... Цяпер я разумею, чаму тут столькі бляшанак валяецца ад рыбных кансерваў.

* * *

— У вас у мінулым годзе былі тут два ветракі, а цяпер толькі адзін застаўся. А што з другім?

— Разабралі.

— Чаму?

— Бо ў нас і на адзін ветру не хапае.

**Адказ на загадку з 29 нумара „Зоркі"**

„Лупавокая матруна..." (жаба)

## „Зорчына" пошта

### БУДЗЕМ ДРУКАВАЦЬ ПЕСНІ

*Марыня Аліфер з Ляўкова Старога напісала „Зорцы" ліст. Яна просіць „Зорку", каб прыслаць ёй словы і музыку песняў: „Ручаёчак-ручаіна", „Сенакосы", „Ой сівы конь бяжыць", або каб надрукаваць гэтыя песні ў „Зорцы".*

Дарагая Марыня, дарагія чытачы! „Зорка" з павагай аднеслася да прапановы Марыні, прадумала ўзнятую Марыняй справу, значыць, справу даступнасці беларускай песні для школьных спевакоў. Усе адчуваем рэпертуарныя недахопы. І вось, ідучы следам лісту Марыні, „Зорка" звярнулася да Пятра Скепкі, кіраўніка калектыву „Дубіны" з просьбай, каб ён заняўся падрыхтоўкай песень да друку ў „Ніве". Пётр паабяцаў і ўжо хутка „Ніва" зноў пачне друкаваць беларускія песні — словы і ноты.

Прысылайце заказы, калі маеце свае пажаданні. Калі знойдзем тэксты, будзем друкаваць па заказах. Будзем аднак друкаваць песні і па ўласнаму выбару.

Таксама „Зорка" з дапамогай Пятра Скепкі час ад часу будзе змяшчаць дзіцячыя песні з нотамі.

Дзякуем Марыні, што ўзняла гэтую важную праблему ў сваім лісце да „Зоркі". Чакаем іншых лістаў, іншых прапаноў ад ўсіх школьнікаў.

### ТОЛЬКІ ДЛЯ ХЛОПЦАЎ

Ідуць спаборніцтвы па картынгу. Кальцавая гонка. Даўжыня трасы — 8000 метраў.



**Колькі засталося ехаць да фініша машыне № 21?**



**А колькі засталося ехаць да фініша машыне № 25?**

### ЧАРАПАХІ НА СТАРЦЕ

У розных краінах свету ўсё часцей праводзяцца спаборніцтвы чарапах. На такі спорт прыходзіць вельмі многа цікаўных.

У мінулым годзе ў сталіцы **Венесуэлы — Каракасе першае** месца ў „бегу" на 50 см заваявала прадстаўніца Аргентыны. „Бегла" яна, вядома, як чарапаха. Дыстанцыю сваю адолела за 5 мінут і 23 секунды. Некаторыя чарапахі ўвогуле не дайшлі да фініша, па дарозе звярнулі сабе ўбок.

Наступныя міжнародныя спаборніцтвы бегу чарапах праходзілі ў Францыі. Тут перамогу здабыла французская чарапаха. Яна ўстанавіла новы „сусветны рэкорд" — апярэдзіла чарапаху з Аргентыны на 9 секунд.



## ШКОЛЬНІКІ-ЛЕСНІКАМІ

Гэтую цікавую інфармацыю мы падаем з Беларусі. Школьнікі школы № 5 горада Калінковічы маюць сваё школьнае лясніцтва. Яны самі тут леснікі і лесаводы. У іх 310 гектараў лесу. Дзеці самі чысцяць лес, агароджваюць мурашнікі, рыхтуюць запасы яды для птушак і звяроў на зіму. Гэтае вялікае школьнае лясніцтва абслугоўвае 50 дзяўчат і хлопцаў.

Маладыя лесаводы праводзяць і навуковую работу ў лесе. Назіраюць за ростам дрэў і кветак.

У школьным лясніцтве ёсць свой запаведнік, дзе растуць занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі, рэдкія расліны. Школьнікі лічаць, што не можа загінуць ні адна кветачка, ні адно дрэва, якое яшчэ расце на нашай зямлі.

Валя і Лена, праходзячы аднойчы, убачылі прыціснутую бурай да зямлі бярозку. Яны не пакінулі яе без дапамогі. Паднялі, падвязалі да ствала суседняга дрэва. І бярозка хутка выпраставалася, зашумела вясёла.

Дачакаліся школьнікі і ўзнагароды за сваю любоў да прыроды. Яны атрымалі прэмію Беларускага таварыства аховы прыроды. Але самая вялікая для іх узнагарода — гэта бачыць свой лес здаровым і моцным.



## АДГАДАНКА




**ДЛЯ ЗДОЛЬНЫХ І ДАПЫТЛІВЫХ**

Які лік трэба ўпісаць у ніжнім крузе замест пытальніка?

Калі здагадаешся, якія матэматычныя аперацыі былі праведзены з лікамі ў папярэдніх кругах (множанне, дзяленне, дадаванне, адыманне), каб атрымаўся ніжні лік, тады даведаешся, які лік трэба ўпісаць.



**Колькі звяроў схаваных у гэтым рысунку?**


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З суседняга агародчыка

## СЛАБЫ ІНТЭЛЕКТ

— Драбілкін! — пазваніў па тэлефоне начальнік цэха дзяжурнаму слесару. — Вось што: механіка сёння не будзе, так што накіроўваю да вас новага работніка. А вы ўжо сам маркуйце: пацягне ён на дзяжурнага слесара ці не?..

— Няхай прыходзіць, — коратка сказаў Драбілкін. — Разбяромся.

Неўзабаве новы работнік ужо заходзіў у кабінет з кароткім, але прыкметным надпісам „Дзяжурныя слесары".

— У шахматы гуляем? — пасля невялікага агульнага знаёмства ва ўпор запытаў гаспадар кабінета ў свайго будучага калегі.

— Не даводзілася, — катэгарычна заявіў той. — Не ведаю нават і назваў фігур.

— А ў шашкі?

— Тое ж самае.

— Можа, красвордзікамі цешымся?

— Не, не захапляюся.

— Ну, а „казла" хоць забіваем?

— На жаль, не...

— Та-а-ак, — пашкадаваў Драбілкін. — Слабаваты ў вас інтэлект. І шкада...

— Ну, як новы работнік? — праз некаторы час пацікавіўся начальнік.

— На пасаду дзяжурнага слесара не падыдзе, — уздыхнуў Драбілкін. — Усю ноч на дзяжурстве спаць будзе...

— Ну што ж, — панік голас у начальніка цэха. — Хай працуе ў дзённую змену...

**Мікалай Скварцоў**








## САМАГУБЕЦ

Разгневаны задрыпанец прыходзіць з работы і кажа:

— У-у! Была б мая воля — усіх п'яніц перастраляў бы!

Жонка выглядае з кухні:

— Любы, ты што — вырашыў застраліцца?

## ЗАГАДКА

— Які самы надзейны спосаб злавіць дзікую качку?

— Купіце хатнюю і дзейнічайце ёй на нервы, пакуль не азвярэе.

## КЕМЛІВЫ

— Гэй хлопчык, што ты робіш на дрэве?

— Ды адно з вашых яблык упала, і я хачу павесіць яго назад.

## У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

— Проста здзіўляюся, — гаворыць пан Задрыпкоўскі сваёй жонцы, — як гэта ты ўхітрылася закончыць размову ўсяго за дваццаць мінут! Што з табою здарылася?

— Набрала няправільны нумар!

## НА КАГО ПАДОБНЫ

Нарадзіўся ў Сцяпана першынец. Сябры цікавяцца, на каго падобны сыночак.

— Як маўчыць, — адказвае Сцяпан, — то на мяне, а калі крычыць, то на жонку.

## ПАШАНЦАВАЛА

— Я толькі вярнуўся з водпуску.

— Ну і як пашанцавала на надвор'е?

— О, яшчэ як! Дождж ішоў толькі два разы. Першы раз 10 дзён, а другі — два тыдні.



**Нязменна царпеў паражэнне ў барацьбе з самім сабой.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да вядомага паэта прыйшла маладая жанчына і кажа:

— Я кінула медыцыну і хачу стаць паэтэсай. Так, думаю, я прынясу больш карысці людзям.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Вы ўжо і так шмат зрабілі для людзей, што кінулі медыцыну.

— ✲ —

— Такім чынам вас абвінавачваюць у шарлатанстве. Вы прадавалі сваім кліентам эліксір вечнай маладосці. Ці асуджаліся вы раней?

— Так, у 1650, у 1730 і ў 1890 гадах.

— ✲ —

На сярэбраным вяселлі муж сарамліва прызнаецца жонцы:

— Ведаеш, дарагая, наш шлюб, па сутнасці, вынік памылкі.

— Як! — ускрыквае жонка.

— Так, уяві сабе. Дык я свіснуў у той дзень толькі дзеля таго, каб спыніць таксі.

**— З той пары, калі я пачаў скарыстоўваць угнаенні фірмы „Ферст Кемікл", на маім участку расце найлепшае пустазелле ў раёне.**

### З „Весніка Задрыпоніі"

## „РАЗУМНЫ УГАРУ НЕ ПОЙДЗЕ"

— так ацанілі ў праўленні шанцы маладога спецыяліста Рамана Надзейновіча на павышэнне.

## БАНТОН

Выхаваны чалавек есць спакойна, не спяшаючыся, не абганяючы іншых. Але, Божа барані, — адстаць!



## МІНІВЕРШЫ

### КРУТЫ ПАВАРОТ

Крытыку рукой крутой
Ён душыў амаль да смерці.
А сягоння ён не той,
Ён яе заступнік, верце...

**Аляксей Зарыцкі**

### СУБАРДЫНАЦЫЯ

— Чаго ж так Моська
брэша на Слана?
— Пасадаю вышэй яна.

**Пятро Капчык**

### ПРА ПАХВАЛУ

Калі цябе хваляць,
ажно заікаюцца,
Павер, над табой,
браток, насміхаюцца.

**Міхась Скрыпка**



## КУР'ЁЗЫ

### ГОРАД АДНАФАМІЛЬЦАЎ

Аўстрыйскі горад Лустэнаў, размешчаны паблізу Бодэнскага возера, — разгорнутая кніга для ўсіх. Тут кожныя два-тры гады выдаецца даведнік, у які ўнесены ўсе жыхары гэтага горада, ад малога да старога, прычым прыводзяцца не толькі адрасы, прозвішчы і імёны, але таксама год нараджэння, сямейнае становішча, месца працы і пасада, колькасць дзяцей, іх імёны.

Справа ў тым, што ў Лустэнаў, дзе жыве прыкладна васемнаццаць тысяч чалавек, больш тысячы жыхароў носяць адно і тое ж прозвішча — Хамэрл. Прычым звыш ста гараджан адгукаюцца на імя Анна Хамэрл, так што адзіны спосаб адрозніць адну Анну ад другой — гэта ўказаць, што канкрэтная Анна з'яўляецца ўраджэнкай Бош, 28 год, настаўніцай і гэтак далей.

Апрача таго, у Лустэнаў добрая трэць жыхароў носіць усяго толькі дзесяць прозвішчаў. Мясцовыя старажылы выхваляюцца, што ўсе яны — патомкі тых васьмі чалавек, якія першымі засялілі гэту мясцовасць 1800 год назад.




**Праўда заўсёды ўсплывае на паверхню, хоць часам ужо без прыкмет жыцця.**